www.nv-online.info

№ 27 (4074)

8 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Усебеларускі народны сход: чаго чакаць – пустой гаварыльні ці прынцыповай ацэнкі рэальнай сітуацыі ў Беларусі?

СКАЗАНА!

## На іншамарках будуць ездзіць толькі Лукашэнка і яго вышэйшыя чыноўнікі

Менавіта так можна зразумець учарашняе выступленне А.Р.Лукашэнкі падчас знаёмства з выставай апошніх навінак тэхнікі.

*"Трэба купляць свае аўтамабілі, тым больш што яны ў два разы таннейшыя за нямецкія"*, – адзначыў беларускі лідар. *"Вы сказалі, што машына добрая, значыць, няхай чыноўнікі купляюць. Даручэнне Шэйману: няхай прапрацоўвае, дзе, колькі па плане па ўсёй вертыкалі, пачынаючы ад старшыняў райвыканкамаў і заканчваючы міністрамі"*, – сказаў прэзідэнт. *"Самае галоўнае, што мы гэта робім у сябе. Калі гарантыю не вытрымаюць, дык прыехаў на завод і зрабіў"*, – рэзюмаваў ён.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Ці дойдзе Тамара Сяргей да міністра Шуневіча?



*"Народная Воля" працягвае сачыць за тым, як праваабаронца Тамара Сяргей спрабуе адстаяць сваё чэснае імя і даказаць, што супрацоўнікі міліцыі незаконна яе затрымалі і беспадстаўна абвінавацілі ў рабаўніцтве 300 долараў, а па сутнасці – людзі ў пагонах учынілі ў адносінах да яе правакацыю.*

Коратка нагадаю гэтую скандальную гісторыю, якая цягнецца ўжо пяць месяцаў.

Пачалася яна ў дзень інаўгурацыі А.Лукашэнкі 6 лістапада 2015 года. Тамара Сяргей прыехала на сталічны чыгуначны вакзал на сустрэчу з актывістамі грамадскай ініцыятывы "Супраць беззаконнасці ў пракуратуры і судах". З вакзала яны мусілі рушыць да Палаца Незалежнасці, дзе праходзіла інаўгурацыя, каб калі не сустрэцца з самім Лукашэнкам, дык хаця б расцягнуць плакаты на шляху яго перасоўвання. Але як толькі Тамара Сяргей зайшла ў будынак вакзала, літаральна праз некалькі хвілін да яе падышлі міліцыянеры і паведамілі, што вымушаны затрымаць праваабаронцу: маўляў, паступіла заява ад грамадзянкі Тарасавай, што Сяргей адкрыта скрала ў яе 300 долараў каля абменнага пункта на трэцім паверсе вакзала. Тамара на той паверх нават і не падымалася, але пярэчыць не стала і падпарадкавалася загаду міліцыянераў "пройдите с нами».

Вядома ж, ніякіх грошай, тым больш 300 долараў, у праваабаронцы не знайшлі. Але пратрымалі ў пастарунку 4 (!) гадзіны. Тамара бачыла і "пацярпелую", якая, паводле яе слоў, была падобная на чалавека, залежнага ад наркотыкаў ці алкаголю. Крымінальную справу супраць Сяргей не завялі, міліцыянеры сказалі, што будуць праводзіць праверку.

Але вынікаў гэтай праверкі праваабаронца потым дабівалася сама: ні ў вызначаны законам тэрмін, ні пазней адказу з аддзела ўнутраных спраў на транспарце г.Мінска яна так і не атрымала. Хаця, здавалася б, усё відавочна, сітуацыя, як кажуць, выедзенага яйка не вартая. Праверыць, што праваабаронцы не было на тым месцы каля абменнага пункта, калі ў Тарасавай быццам бы скралі 300 долараў, нескладана – там ёсць камеры відэаназірання. Але чаму праверку ніхто не праводзіў? Можа, таму, што магла выявіцца іншая праўда: грамадзянка Тарасава навяла паклёп на Тамару Сяргей? Навошта? Яе нехта папрасіў аб гэтым, каб перашкодзіць Сяргей і актывістам руху трапіць на інаўгурацыю Лукашэнкі?

Каб справа ўсё ж такі зрушылася з мёртвай кропкі, Сяргей пачала пісаць скаргі аб незаконным затрыманні міністру ўнутраных спраў **Ігару Шуневічу** і генпракурору **Аляксандру Канюку.** Яе заява была накіравана на разгляд транспартнаму пракурору Мінска **Мікалаю Кротаву,** які ў сваю чаргу перанакіраваў яе ў Мінскі аддзел унутраных спраў на транспарце. Як патлумачылі Сяргей: каб была праведзена праверка яе довадаў аб загадзя лжывым даносе. Здавалася б, нарэшце ўсе кропкі над "і" будуць расстаўлены, праўда выявіцца. Але ж не трэба забываць, у якой краіне мы жывём.

Вынікі той праверкі былі наступныя. Сяргей пісьмова паведамілі, што ў дзеяннях супрацоўнікаў унутраных спраў, якія яе затрымлівалі, і ў дзеяннях грамадзянкі Тарасавай парушэнняў заканадаўства няма! Вядома ж, пагадзіцца з такім адказам праваабаронца не магла і звярнулася ў Мінскі АУС на транспарце з заявай прадаставіць ёй магчымасць азнаёміцца цяпер ужо з матэрыяламі праверкі, якая праводзілася па заяве Тарасавай. *"Я маю ўсе падставы ведаць, чаму менавіта мяне грамадзянка Тарасава абвінаваціла ў крадзяжы. Яна ж не выказала здагадку, а сцвярджала, што я адкрыта выкрала ў яе грошы. А калі грамадзянін робіць такія адназначныя заявы, то ў яго павінны быць на тое важкія аргументы"*, – тлумачыла сваю ўпартасць Сяргей.

Але зноў параза, зноў праваахоўныя органы знаходзяць падставы, каб адмовіць праваабаронцы. Гэтым разам аргументы такія: з матэрыяламі праверкі па заяве Тарасавай Сяргей азнаёміцца не можа, таму што яны *"ўтрымліваюць дадзеныя, якія закранаюць законныя інтарэсы іншых асоб"*.

*– Але гэты адказ парушае арт.34 Канстытуцыі,* – сцвярджае Сяргей, – *дзе чорным па белым напісана, што дзяржаўныя органы, службовыя асобы якраз-такі «абавязаны даць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы». А ў артыкуле 1 Крымінальнага кодэкса сцвярджаецца, што «ў выпадку супярэчнасці паміж нормамі гэтага Кодэкса і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзейнічаюць палажэнні Канстытуцыі».*

Адным словам, Тамары Сяргей прыйшлося зноў звярнуцца да эпісталярнага жанру. Чарговы ліст-скаргу на дадзеную адмову праваабаронца даслала начальніку ГУУС Мінгарвыканкама **Аляксандру Барсукову**. Гэта было яшчэ ў лютым. Тады Сяргей сцвярджала: калі ГУУС зойме такую ж пазіцыю, што і Мінскі аддзел унутраных спраў на транспарце, яна будзе абскарджваць гэтае рашэнне міністру і будзе настойваць на асабістым прыёме ў Шуневіча.

Сёння на календары красавік. І што?

*– Барсукоў адказаў амаль тымі ж словамі: і міліцыянеры дзейнічалі па законе, і грамадзянка Тарасава нічога не парушыла,* – расказвае Тамара Сяргей. – *Але да міністра я яшчэ не дайшла. Спачатку трэба прайсці ўсе этапы, каб мець падставы звяртацца асабіста да Шуневіча.*

*23 сакавіка я была на прыёме ў намесніка міністра – начальніка міліцыі грамадскай бяспекі **Мікалая Мельчанкі**. Перадала яму скаргу на дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў – падпалкоўніка Сяргея Гаркавага і старшага прапаршчыка Сяргея Махнача, якія мяне затрымлівалі на вакзале 6 лістапада 2015 года, а таксама скаргу на тое, што мне не даюць магчымасці азнаёміцца з матэрыяламі праверкі па скарзе грамадзянкі Тарасавай.*

*Акрамя гэтага, я падала заяву аб правядзенні праверкі і ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да Тарасавай, бо яна ўзвяла на мяне паклёп. Больш за тое, улічваючы той факт, што спачатку яна паказала на ўсю нашу групу як на рабаўнікоў (ужо потым усё звялося да таго, што зладзейка нібыта была адна – Тамара Сяргей), дык атрымліваецца, што яна нас абвінаваціла ў здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства – групавога рабавання, па якім прадугледжана пакаранне да 13 гадоў пазбаўлення волі. Па гэтай заяве праваахоўныя органы абавязаны правесці праверку.*

*Дзве мае скаргі тут жа былі адпраўлены ў той жа аддзел, які ўжо праводзіў праверку і які на "голубом глазу" даваў мне адказы, што мяне правільна затрымлівалі. Мяне яшчэ раз апыталі. Але ж відавочна, якую яны занялі пазіцыю: мяне выслухалі, запісалі мае паказанні, мае довады, але будуць рабіць так, як ім трэба.*

*Што тычыцца заявы аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці грамадзянкі Тарасавай, то, як я зразумела з гутарак з праваахоўнікамі, яны нават не ведаюць ці робяць выгляд, што не ведаюць, хто яна такая, гэтая Тарасава. Ці існуе ў прыродзе такі чалавек. У пратаколе затрымання і ва ўсіх адказах пішуць толькі "Тарасова Т.Н.". Поўнае яе імя нібыта не вядома, год нараджэння не вядомы, па якім адрасе пражывае – не вядома! Я звярнула на гэта ўвагу намесніка міністра. У мяне наогул закрадаецца падазрэнне, што не было ніякай заявы. Была праведзена спецаперацыя па затрыманні Тамары Сяргей і актывістаў ініцыятывы "Супраць беззаконнасці ў пракуратуры і судах", каб мы не патрапілі да Палаца Незалежнасці ў дзень інаўгурацыі прэзідэнта. Арганізатары гэтай спецаперацыі не думалі, што я не спушчу ім усё гэта з рук, што буду пісаць і патрабаваць разабрацца. Але дзе там! Можа, з боку і падаецца, што я б'юся галавой аб глухую сцяну беларускай беззаконнасці, але на маім прыкладзе краіна бачыць, як працуе наша праваахоўная сістэма, бачыць, як у Беларусі бессаромна маніпулююць, грэбуюць законам тыя, хто павінны стаяць на яго варце.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## «Россия сегодня» ўжо прыйшла ў Беларусь

Міжнароднае інфармацыйнае агенцтва «Россия сегодня" адкрыла ў Мінску мультымедыйны прэс-цэнтр пад брэндам свайго даччынага праекта Sputnik. Ён размясціўся ў "Доме Масквы" на вуліцы Камуністычнай. З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам міністра інфармацыі **Лідзіі АНАНІЧ**, пасла Расіі ў Беларусі **Аляксандра СУРЫКАВА** і генеральнага дырэктара міжнароднай медыягрупы "Россия сегодня» **Дзмітрыя КІСЯЛЁВА**.

Нагадаем: Дзмітрый Кісялёў актыўна праявіў сябе ў прапагандысцкай кампаніі падчас захопу Расіяй Крыма і акупацыі Данбаса. Яго дзейнасць увайшла ва ўжытак пад тэрмінам "кісялёўшчына" як сімвал агрэсіўнай прапаганды новага тыпу. Летась Еўрасаюз забараніў яму ўезд на сваю тэрыторыю. А ўчора Дзмітрый Кісялёў меў сустрэчу з міністрам замежных спраў Беларусі **Уладзімірам МАКЕЕМ**, падчас якой абмяркоўвалася супрацоўніцтва ў рамках інфармацыйнай прасторы саюзнай дзяржавы, а таксама пытанні, якія тычацца працы карпункта "Россия сегодня" ў Беларусі.

Падчас прэс-канферэнцыі і беларускі міністр інфармацыі, і пасол Расіі станоўча выказаліся наконт адкрыцця "дочкі" расійскага "Спутника". **"Народная Воля"** зазначыла ў сваім пытанні Кісялёву, што пераважная колькасць інфармацыйных каналаў у Беларусі з'яўляюцца расійскімі. Беларускія грамадзяне нават збіралі подпісы і звярталіся ў розныя інстанцыі, каб дабіцца трансляцыі хаця б аднаго ўкраінскага канала. Навошта ў такой сітуацыі адкрываць яшчэ і філіял расійскага "Спутника"? Ці не напаткае тут яго тое, што адбылося ў Латвіі, дзе 29 сакавіка закрылі інтэрнэт-партал "Спутник-Латвия", які праіснаваў толькі паўтара месяца (*згодна з паведамленнем дзяржаўнага рэестра Латвіі, партал утрымлівае змест, які з'яўляецца «пагрозай тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны». У прыватнасці, было пазначана, што ў публікацыях агенцтва тэрыторыі Луганскай і Данецкай абласцей называюць як ЛНР і ДНР.* – **Аўт**.)?

Можа, у Маскве Беларусь ужо разглядаюць як частку праслаўутага "русского мира"? На гэта Дзмітрый Кісялёў адказаў: *"Я не лічу "русский мир» праслаўутым, таму што мы жывём у ягонай прасторы, дзякуй Богу. Дай Бог яму здароўя. Я лічу, што ён высакародна ўздзейнічае на ўсю сусветную цывілізацыю. Гэта бачна і ў Сірыі, і ў іншых месцах. Калі гаварыць пра Латвію, то я ўдзячны латвійскім калегам за выдатную рэкламу, таму што ў нас вырасла наведвальнасць, мы сышлі на Latvia.com. Яны намагаліся закрыць наш рэсурс з-за таго, што я знаходжуся пад санкцыямі Еўрасаюза. Гэта выхад за прававое поле, бо персанальныя санкцыі не могуць быць ужыты супраць агенцтва. Санкцыі я аспрэчваю ў судзе. Зараз гэтай гісторыяй займаюцца ў Еўрапейскім судзе, і яна яшчэ не скончана. Тое, што адбылося ў Латвіі, гэта боязь другога пункта гледжання. Не думаю, што на гэтую хваробу пакутуе Беларусь, і таму не асцерагаюся".*

На прэс-канферэнцыі амаль усе пытанні незалежных журналістаў арганізатары назвалі тэндэнцыйнымі. Было бачна, што яны не спадабаліся ні паслу Расіі, ні галоўнаму прапагандысту Крамля. Усё адбывалася на фоне плаката са слоганам "Спутника" па-руску: "Говорим то, о чем другие молчат", а побач пераклад на беларускую мову: "Распавядаем недамоўленае". Засталося толькі самім здагадвацца: гэта тэндэнцыйны ці своеасаблівы пераклад?

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЛІЦ

## А што за прыгожымі словамі?

*«МАЗ, як і БелАЗ, і мотавелазавод, – гэта твар нашай краіны. Мы ні ў якім разе не можам і не маем права ўгробіць гэтыя прадпрыемствы. Таму, адказваючы скептыкам і тым, хто сёння не верыць у гэта: МАЗу быць, быць заўсёды, і пры мне, і пасля мяне"*, – заявіў А.Лукашэнка падчас сустрэчы з прадстаўнікамі працоўнага калектыву Мінскага аўтазавода.

Захаванне гэтых і іншых прадпрыемстваў, падкрэсліў Лукашэнка, не толькі справа яго гонару, але і захаванне эканамічнай базы, рабочых месцаў для будучых пакаленняў. *"Наша шчасце тут, на гэтай зямлі. І мы павінны думаць пра тое, як захаваць рабочае месца для нашых дзяцей"*, – рэзюмаваў Аляксандр Рыгоравіч.

Што і казаць, прыгожыя словы! Вось толькі ці стануць яны рэальнасцю?

Апошнія два гады МАЗ стабільна аказваецца ў лідарах антырэйтынгу самых стратных ААТ краіны. За тры кварталы мінулага года, паводле дадзеных Мінфіна, Мінскі аўтазавод атрымаў чыстую страту ў памеры 248,4 млрд рублёў, апынуўшыся на пятым месцы ў краіне па памеры фінансавых страт.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## У следчым ізалятары экс-генеральны менеджар мінскага «Дынама» Уладзімір Бераждкоў схуднеў на 25 кілаграмаў

Як вядома, на гэтым тыдні Уладзімір Бераждкоў (*на фота – справа*) выпушчаны з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе.



Увогуле, справа была рэзанансная. Спачатку ў ліпені 2015 г. быў затрыманы былы гендырэктар ХК «Дынама-Мінск» **Максім Суботкін**, якому выставілі абвінавачанне на падставе ч.3 арт.424 КК (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры).

Праз некалькі месяцаў Следчы камітэт паведаміў пра затрыманне Уладзіміра Бераждкова. Прадстаўнікі СК і МУС паведамілі журналістам, што Бераждкову выстаўлена абвінавачанне ў авалодванні грашовымі сродкамі клуба на 1 млрд 90 млн рублёў з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў (ч.4 арт.210 КК).

1 лютага Следчы камітэт паведаміў пра завяршэнне расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да Бераждкова і Суботкіна, а таксама пра тое, што яны пакрылі амаль 3 млрд рублёў шкоды і папрасілі вызваліць іх ад крымінальнай адказнасці.

5 лютага старшыня СК **Іван Наскевіч** заявіў журналістам, што Бераждкоў і Суботкін могуць быць памілаваны, бо пакрылі нанесеную шкоду. Пры гэтым Наскевіч падкрэсліў, што з такім хадайніцтвам Бераждкоў і Суботкін звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі (дарэчы, Максім Суботкін на момант падпісання нумара ў друк яшчэ заставаўся ў следчым ізалятары).

Сам Уладзімір Бераждкоў пакуль адмаўляецца ад якіх-небудзь каментарыяў, тым больш што ён не мае права агучваць падрабязнасці свайго вызвалення. А ўчора ён наведаўся ў рэдакцыю газеты "Прессбол", рэдактарам якой з'яўляўся 19 гадоў.

*"Схуднелы і пакуль не вельмі фотагенічны, але не згубіў бадзёрасці і пачуцця гумару"*, – так ацанілі яго стан калегі.

Дарэчы, за кратамі Уладзімір Бераждкоў схуднеў на 25 кілаграмаў, на што з жартам сказаў: *"Шмат хто любыя грошы аддае, каб так схуднець, а я – на халяву"*.

*"Была вельмі эмацыянальная сустрэча, мы ўсе рады, што Уладзімір Бераждкоў апынуўся на волі"*, – коратка распавёў галоўны рэдактар выдання **Сяргей Кайко.**

**Алесь СІВЫ.**

РЭГІЁН

## Пайшоў на пенсію і стаў дырэктарам кінатэатра

*Былы начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Вілейскага РАУС падпалкоўнік **Андрэй Дударчык** пасля сыходу на пенсію новую працу знайшоў вельмі хутка. Цяпер ён начальнік аддзела кінавідэаабслугоўвання насельніцтва Вілейскага раёна, кіруе мясцовым кінатэатрам «Мір».*

Гэта не жарт, хоць загад аб яго прызначэнні і быў падпісаны 1 красавіка.

Былы міліцыянт ужо паспеў падзяліцца сваімі планамі з журналістамі інфармацыйна-навінавага партала «Край»: *«Хачу паспрабаваць вярнуць людзей у кінатэатр. Наш кінатэатр па тэхнічным аснашчэнні адпавядае ўсім сусветным патрабаванням. Мы наўпрост працуем з дыстрыб'ютарамі, якія атрымліваюць фільматэку за мяжой. Таму нярэдка гэта дазваляе нам паказаць прэм'еру раней, чым яе прадэманструюць у іншых кінатэатрах".*

РЭБУС

## Чаму суддзя паверыла Быку, а не Меху?

25 сакавіка ў Мінску прайшло чарговае святкаванне Дня Волі. Як памятаюць чытачы "Народнай Волі", некаторыя дэманстранты сабраліся ля кінатэатра "Кастрычнік", што побач з метро "Акадэмія навук" (месца збору было ўзгоднена з уладамі). Іншыя людзі на чале з **Міколам Статкевічам** і **Уладзімірам Някляевым** спачатку накіраваліся да помніка Янку Купалу (што ў аднайменным парку), каб ускласці кветкі. А потым рушылі праспектам Незалежнасці да месца збору. Сярод удзельнікаў таго шэсця быў і **Аляксандр Мех** з Кобрына.

Як расказаў Мех "Народнай Волі", шэсце для яго скончылася без затрыманняў і штрафаў. Ніхто з супрацоўнікаў міліцыі не падыходзіў да яго з заўвагамі, ніхто не прасіў яго назваць ні прозвішча, ні імя, ні месца пражывання, што патрэбна для складання пратакола аб парушэнні грамадскага парадку. І было поўнай нечаканасцю, калі на пачатку красавіка ён раптам атрымаў па пошце пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, а 5 красавіка – позву ў суд Цэнтральнага раёна горада Мінска. 7 красавіка суддзя **Таццяна Рак** прысудзіла Меху штраф у 50 базавых велічынь (дзесяць мільёнаў пяцьсот тысяч рублёў).

Падставай для такога катэгарычнага рашэння сталі паказанні **Барыса Быка**, камандзіра аднаго з аддзяленняў мінскага АМАПа. Як засведчыў ён у судзе ў якасці сведкі, 25 сакавіка, знаходзячыся разам з калегамі ў Парку імя Купалы, звярнуў увагу на грамадзян, якія *"выкрыквалі лозунгі, трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі і плакаты"*. На судзе Бык заявіў, што ён бачыў, як падчас мітынгу да Меха падыходзіў хтосьці з супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным. Грамадскаму актывісту нібыта была зроблена заўвага, што дадзенае мерапрыемства з'яўляецца несанкцыянаваным. Таго чалавека ў цывільным Бык не ведае (!). Але ўраджэнец Кобрына нібыта не прарэагаваў на заўвагу і працягваў удзельнічаць у шэсці.

Сам Мех падкрэслівае, што не выкрыкваў ніякіх лозунгаў, не трымаў сцягоў або расцяжак і што да яго ніхто не падыходзіў. Інакш на яго быў бы складзены пратакол яшчэ падчас святкавання Дня Волі і ў яго прысутнасці. Але суддзя паверыла сведчанню амапаўца і не паверыла А.Меху, хоць ён сваімі пытаннямі загнаў Быка ў кут.

Скажаце: а чаму спадарыня Таццяна Рак не запатрабавала ў Быка, напрыклад, аўдыё- альбо відэасведчанні таго, што Аляксандр Мех сапраўды парушаў грамадскі парадак? Гэтае пытанне і я ёй задаю. Ды, мяркую, яно і само сабой паўставала падчас судовага разбіральніцтва. Але, мабыць, абсалютна не цікавіла Феміду.

Атрымліваецца, што адзіны шанц пераканаць суддзю ва ўласнай праваце – браць прыклад з філосафа **Уладзіміра Мацкевіча**: знаходзіцца падчас грамадскіх акцый у іншых краінах і прадастаўляць пашпарт з пазнакамі аб перасячэнні мяжы.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

